Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

ІВАЦЭВІЧЫ–БАРАНАВІЧЫ–БЯРОЗА

# Газета для вас

17 верасня 1997 года
СЕРАДА
№ 50
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы – 750 руб.
Цана ў розніцу – 1.000 руб.

## ЧАС МЯСЦОВЫ

БАРАНАВІЧЫ

### КАМБАЙНЫ ПАКІНУЛІ ПАЛЕТКІ

Закончана ўборка збожжавых у гаспадарках раёна. Яшчэ падагульняюцца яе вынікі, аднак лідэры вядомыя.

Экіпаж камбайна „Дон-1500" дзяржаўнага конезавода ў складзе Уладзіміра Салаўя і Васіля Васечкі намалочваў у пагодлівыя дні ў сярэднім па 50 тон збожжа. За ўсё жніво – больш за 200 тон. Гэта – найлепшы паказчык. За ім ідуць Васіль Яфімовіч і Юрый Парфёнаў з калгаса „Шлях Леніна", Пётр Паясок і Мікалай Паясок – механізатары саўгаса „Перамога", Валянцін Стрэльчык і Аляксей Здановіч з саўгаса „Уцёс".

Сярэдняя ўраджайнасць у раёне дасягнула 30,9 цэнтнера з гектара. Жніво ішло пад строгім кантролем спецыялістаў. Літаральна кожны грузавік правяраўся, каб не вёз на млынкамбінат сырое збожжа. Бо з-за гэтага гаспадаркі гублялі б сотні тысяч рублёў на тоне. З мэтай эканоміі гаручага камбайны працавалі з прычэпамі, у якія збіралася скрышаная салома. Палеткі пасля машын заставаліся чыстымі.

Жыццё навучыла берагчы і збожжа,і салому.

### МУЗЕЙ РАСКАЗВАЕ ПРА КОРПУС

Чацвёрты гвардзейскі Кубанскі казацкі корпус удзельнічаў у вызваленні Баранавічаў ад фашыстаў. 9 яго дывізій і 5 палкоў атрымалі званні Баранавіцкіх, астатнія ўзнагароджаны ордэнамі. Кубанскі казацкі 18 разоў атрымліваў заахвочванні ад Вярхоўнага Галоўнакамандуючага. 200 чалавек з корпуса бралі ўдзел у Парадзе Перамогі.

Аб гэтых і многіх іншых старонках баявой славы казацкага корпуса можна даведацца ў музеі, створаным у Цэнтры дзіцячага і юнацкага турызму ў райцэнтры. Натхняльнікам і арганізатарам карыснай справы з'явіўся дырэктар гэтай установы Іван Іванавіч Журкоўскі. Ён з дзецьмі адшукаў сотні байцоў і афіцэраў, аднавіў імёны без вестак прапаўшых, добраўпарадкаваў дзесяткі магіл, дзе пахаваны казакі, якія аддалі свае жыцці, вызваляючы горад.

### ДОЎГА БУДЗЕ "ІСА" ІМ СНІЦЦА

„Іса" – аздараўленчы лагер для дзяцей мясцовых чыгуначнікаў. Хваёвы бор, старадаўні панскі асабняк, лясныя сонечныя паляны надаюць яму асаблівы каларыт. За сёлетняе лета тут адпачыла больш за 900 школьнікаў. Цяпер ім ёсць аб чым расказваць сваім сябрам: пра паходы з начлегамі, вячэрнія кастры, дыскатэкі, святы. Выхавацелямі тут працавалі навучэнцы Баранавіцкага педагагічнага каледжа.

Спакойнае жыццё лагера звязана з нармальным фінансаваннем, большую частку якога ўзяла на сябе аддзяленне чыгункі і яго падраздзяленні.

### ВУЛІЦА СТАЛА ПРАСПЕКТАМ

Участак вуліцы Савецкай з боку мікраёна „Паўночны" да пуцепровода цяпер афіцыйна называецца „Праспект Савецкі". Сапраўды, хто ўязджае ў Баранавічы з гэтага боку, здзіўляецца цудоўнай аўтатрасе, маляўнічаму возеру, кампактнаму жыллёваму масіву і велічнай царкве, што ўзводзіцца.

ІВАЦЭВІЧЫ

### ЛЕПШЫЯ ЧАСЫ ЯШЧЭ НЕ НАСТУПІЛІ

Сапраўды, кожны дзень прыносіць непрадбачаныя цяжкасці, кожны дзень прыходзіцца шукаць і знаходзіць нейкае выйсце, каб калектыў малаказавода працаваў рытмічна, без перабояў, каб самыя неабходныя малочныя прадукты штодня былі на стале ў нашых гараджан. І яго дырэктар Анатоль Аркадзьевіч Грудзеў, гаворачы пра справы на прадпрыемстве, спадзяецца, што лепшыя часы яшчэ не наступілі, што ўсё наперадзе. Хаця, гледзячы на новыя карпусы завода, той-сёй па-добраму і зайздросціць, што ў нашы дні магчыма гэта зрабіць. Так, магчыма. Толькі не ва ўсіх чамусьці справы ладзяцца.

– А наш дырэктар умее з людзьмі працаваць. Ён і добры, і строгі, – так мне сказаў пра свайго кіраўніка адзін з рабочых.

Відаць, у гэтым і ўвесь сакрэт поспехаў калектыву. А яго прадукцыя, без перабольшвання, карыстаецца вялікім попытам. І трэба сказаць, што яна танней, чым прывазная з той жа Бярозы. Таму ў заводскім магазіне заўсёды мнагалюдна.

Масла, кефір, малако, смятану закупае на заводзе адзін з магазінаў г. Баранавічы. І там гэтыя прадукты не залежваюцца на прылаўках.

Дарэчы, выпуск масла сялянскага і шакаладнага пачаўся толькі ў чэрвені гэтага года. Пакуль што яно ў стандартных пачках па 20 кілаграмаў.

Зараз на заводзе ідзе падрыхтоўчая работа да выпуску дыетычнага сыру. Для зручнасці ён будзе расфасаваны ў пачкі па 0,5 і 1 кілаграму. Плануецца, што сыр будзе таннейшым, чым зараз у магазінах. Ужо з першага кастрычніка пакупнікі змогуць ацаніць смакавыя якасці новага гатунку мясцовага сыру.

Такі сённяшні і заўтрашні дзень Івацэвіцкага малаказавода.

### КАБ ЛЕС ЗАЛЯЧЫЎ РАНЫ

Добрага слова заслугоўвае праца калектываў лясгасаў Гомельскай вобласці, якія з пачатку ліквідацыі наступстваў чэрвеньскага урагану прыехалі ў Навінскае лясніцтва Целяханскага лясгаса. На расчысткі і нарыхтоўцы драўніны з дня ў дзень працавалі 28 брыгад лесарубаў. На ўзбраенні ў іх было 32 трактары, 65 бензапіл і 21 грузавік.

Да 1 верасня выканана даведзенае заданне і нарыхтавана 22,7 тысячы кубаметраў бураломнай драўніны. Разлічваюць усю яе пусціць у справу.

Вывераныя дзеянні ў складаных умовах паказалі брыгады лесарубаў Буда-Кашалёўскага лясгаса (брыгадзір І. Паўлаў), Рэчыцкага (брыгадзір В. Вярыга), Жыткавіцкага (брыгадзір І. Веціс), Мазырскага (брыгадзір В. Дубіна) і многія іншыя.

Выконваючы абавязкі дырэктара Целяханскага доследнага лясгаса І. Кот і старшыня прафкама І. Саўчук адаслалі на адрас Гомельскага вытворчага лесагаспадарчага аб'яднання тэлеграму. У ёй гаворыцца: „Целяханскі доследны лясгас выказвае ўдзячнасць працоўным калектывам Гомельскага, Буда-Кашалёўскага, Ельскага, Жыткавіцкага, Жлобінскага, Калінкавіцкага, Лельчыцкага, Мазырскага, Петрыкаўскага, Рэчыцкага, Рагачоўскага, Светлагорскага і Чачэрскага лясгасаў за дапамогу ў ліквідацыі наступстваў урагану.

Ад усёй душы жадаем моцнага здароўя, поспехаў у працы, шчасця і дабрабыту".

● ЛІСТ З НЯВОЛІ ●

## "Я АСУДЖАНЫ НЕЗАКОННА..."

*Паважаныя чытачы! Прапануем Вашай увазе пісьмо, атрыманае рэдакцыяй „Газеты для вас" 12 верасня г. г. з установы УЖ 15/із-8 г. Жодзіна. Аўтар пісьма – дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання Уладзімір Кудзінаў, асуджаны 4 жніўня г. г. судом Барысаўскага раёна да 7 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Вядома, ім пададзена ў вышэйшую судовую інстанцыю касацыйная скарга, якая будзе разглядацца па ўсёй верагоднасці ў Мінскім абласным судзе.*

**УВАЖАЕМАЯ РЕДАКЦИЯ!**

**Обращаюсь к Вам с просьбой опубликовать моё обращение к судье суда Борисовского района Шелепеню В. В., так как оно вызвано чувством беспокойства и ответственности не только за свою судьбу, но и за судьбу нашего государства и судьбу его граждан.**

**Я осуждён незаконно, и я оспариваю в установленном законом порядке свои права. Однако уже после ознакомления с протоколом судебного заседания я понял, что эта борьба займёт многие годы, так как в нашем правосудии сложился порядок лжи, фальсификации с целью угодить вышестоящим чиновникам.**

**Уважаемый судья Шелепень В. В.!**

Я обращаюсь к Вам как к гражданину Республики Беларусь с одной лишь целью: предотвратить для Вас наступление возможных тягостных дальнейших последствий (не посчитайте это угрозой).

Вы непосредственно своими неправомерными действиями создаёте государство насилия, лжи, попирательства действующих законов. Вы не задумываетесь сегодня о том, что, осуждая незаконно человека, способствуете установлению в республике режима насилия, отбрасывающего наше общество на многие годы от создания демократического государства, в котором было бы верховенство закона перед любыми личностными убеждениями и побуждениями.

Вы, выполняя указания сверху, игнорируете действующие в республике законы, прикладываете все свои усилия, даже незаконными методами, чтобы угодить кому-то с целью того, чтобы в руководстве республики знали о Вас как о нужном судье.

В моём деле Вами сделаны выводы, которые даже не соответствуют здравому смыслу, так как нельзя одни и те же деньги обнаружить в 12-30, а изъять их же в 12-00. Даже теоретически такое невозможно сделать. Однако в Ваших выводах это возможно.

Чтобы меня победить (Вы так считаете), Вами протокол судебного заседания так был изменен от действительности, что мне при его ознакомлении необходимо было сделать 38 замечаний, которые существенно влияют на приговор суда. Это говорит о том, что Вы не судите, а подсуживаете не имея сил отказать вышестоящим чинам, и для Вас судьба человека ничто по сравнению с Вашими чувствами угодничества.

В судебном разбирательстве не должно быть победителей и побежденных, а должна властвовать только сила закона.

Вы не задумываетесь сегодня о том, что через годы может случиться так, что Ваши же дети будут проклинать Вас за то, что Вы создавали государство насилия, и это насилие может быть применено против детей и Ваших внуков. Но Вы уже ничего сделать тогда не сможете.

В дальнейшей своей жизни подумайте над этими словами.

**С уважением, осужденный**
**Владимир КУДИНОВ.**

● ЛЁС ЧАЛАВЕЧЫ

# БАЛЮЧАЯ ПАМЯЦЬ

Яшчэ зусім нядаўна мы сядзелі ў хаце Л. М. Курача, гутарылі. Ён расказваў пра сваё жыццё, пра сям'ю, пра дзяцей, пра сваю гаспадарку. Калі ж я пацікавіўся мінулым, а менавіта гадамі вайны, Леанід Мікалаевіч на нейкі момант змоўк, відаць, я закрануў нешта балючае, а потым вымавіў:

– Яна, вайна, тут ва мне ўсе гады сядзела. Кожную ноч напаміналa пра сябе. Далася яна мне ў знакі...

Толькі трохі пазней я зразумеў сутнасць сказанага, калі Леанід Мікалаевіч што-колечы расказаў пра вайну, прв яе заключны этап на тэрыторыі Польшчы і Германіі.

А спярша чорнае ліхалецце не кранула Леаніда Курача. У армію не прызвалі – не паспелі. Працаваў, як і раней, на ўласнай гаспадарцы. Толькі пасля вызвалення раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў прыйшла павестка ў ваенкамат. Гэта было ў ліпені 1944 года. Кароткія курсы – і на фронт. Старшы сяржант Леанід Курач узначаліў мінамётнае аддзяленне. Побач былі такія ж навічкі, але на тры-чатыры гады маладзейшыя, зусім хлапчукі. Мінамётную справу засвоілі добра і стралялі не горш за бывалых салдат.

Вайна набліжалася да заканчэння. Цяжкія былі бai на подступах да Берліна, яшчэ гарачэй стала ў самім горадзе. Уперадзе ўзвышаўся рэйхстаг, логава Гітлера. Да яго рукой падаць. Колькі тут нашых салдат палегла, Курач сказаць не мог. Але вельмі многа. На кожным кроку хтосьці ляжаў, хтосьці енчыў, а загад, здаецца, не змаўкаў у вушах: „Толькі наперад!"

У адной з атак, калі мінамётчыкі мянялі сваю пазіцыю, Курача параніла. Асколак снарада засеў у пазваночніку. Да перамогі заставалася дзесяць дзён.

Так і не ўбачыў Леанід Курач чырвонае палотнішча – Сцяг перамогі над рэйхстагам. А так хацелася. А яшчэ больш хацелася выжыць у тым ваенным кашмары, вярнуцца дамоў жывым. І ён вярнуўся, толькі пасля Перамогі, пасля шпіталю. Рана зажыла, зарубцавалася, але невялікі асколак застаўся дзесьці ля пазваночніка. Рабіць другую аперацыю ўрачы не адважыліся. Баяліся, каб не пашкодзіць нерв, бо, можа стацца, пацыент застанецца нерухомым на ўсё жыццё. А гэта ўжо трагедыя.

Так і прыйшоў Курач да сваёй хаты з кавалачкам чужога металу ў сваім целе. З надзеяй на лепшае.

Трэба адзначыць, што і пасляваеннае жыццё для былога франтавіка склалася нялёгка. Праца, сям'я, гаспадарка, работа спярша лесатэхнікам, а пасля леснікoм у Даманаўскім лясгасе.

Аднойчы ноччу (а гэта было ў першыя пасляваенныя гады) у акно моцна пастукалі.

Курач прыслухаўся. Стук паўтарыўся. Устаў з ложка, падышоў да акна, адхіліў фіранку. Ля парога ўбачыў некалькі постацяў.



– Хто там? – спытаў Леанід.

– НКУС, – адказалі адтуль.

А ў самога гаспадара чамусьці зашчымела сэрца, відаць, прадчуваючы нешта нядобрае.

Запаліў лямпу, адчыніў дзверы. У хату ўвайшлі трое ў форме.

– Збірайся. І дакументы з сабой захапі, – загадалі гаспадару.

Той жа ноччу Курача завезлі ў Баранавічы. І не адкладваючы, павялі на допыт. З першых пытанняў Леанід зразумеў, чаго ад яго хочуць. Аказваецца, што яго лічаць саўдзельнікам забойства, якое адбылося ў іхняй вёсцы. Мясцовыя бандыты забілі чамялоўскага актывіста. І як зразумеў Леанід, ад яго патрабуюць прызнання месцазнаходжання ў лесе зямлянкі, дзе хаваюцца забойцы. Ён ляснік і павінен гэта ведаць.

Тры месяцы мучылі, катавалі, здзекваліся з былога салдата. Колькі ж трэба было мужнасці, цярпення, чалавечай стойкасці, каб перанесці ўсё, не зламацца, не здрадзіць свайму сумленню. Вырваўшыся з лап НКУС, Леанід Курач адчуў, што старая рана стала больш ныць па начах. Не зважалі людзі ў пагонах на ваенныя шрамы і рубцы, калі выбівалі прызнанні.

І толькі ў пачатку 1991 года, калі больш цярпець нельга было, Леанід Мікалаевіч згадзіўся на складаную аперацыю. Не меў надзеі ветэран на яе ўдалы зыход пасля ранейшых страшных размоў. Але аперацыя не ў Мінску, а ў райцэнтры прайшла надзіва паспяхова. Той асколак, які ўпершыню ўзяў у рукі, Курач доўга захоўваў як самую балючую памяць пра вайну.

Балючая памяць – гэта не толькі пра вайну. Гэта пра здзекі НКУС, дзе падазраваемага не лічылі за чалавека. І не ўсе выходзілі адтуль жывымі. А калі выходзілі, то, або гублялі сваё здароўе, або станавіліся здраднікамі перад самім сабой, перад сваім сумленнем.

Балючая памяць – гэта і доўгія гады, калі па начах амаль адымала ногі, калі ныла цела і нельга было заснуць. Толькі дзень у сваіх вечных клопатах адцягваў ад таго болю, што пасяліўся ў Леанідавай душы і целе пасля ранення ў красавіку 1945 года. І што цікава, салдат перанёс аперацыю, ляжаў у шпіталі, жыў амаль паўвека з асколкам, і, нібы на смех, на здзек лічыўся толькі ўдзельнікам вайны, не быў прызнаны раённымі ўрачамі інвалідам. Спярша паспрабаваў стаць на камісію, але зразумеў: не прабіць глухую сцяну чэрствасці і абыякавасці і не стаў клапаціцца. І больш не хадзіў Леанід Мікалаевіч нікуды дабівацца праўды, усё перажытае – і боль, і радасць – насіў у сабе. І так да канца дзён сваіх. А гэта, паверце, рабіць было вельмі і вельмі цяжка.

У адзін з леташніх снежаньскіх дзён не змог больш Курач супрацiўляцца ўнутрана і „згарэў", адышоў у нябыт са сваім болем і са сваёй памяццю.

Многае з таго, чым жыў Леанід Мікалаевіч, перадалося дзецям (а іх у Курача шасцёра), жонцы Лідзіі Ігнатаўне, якая паўвека крочыла разам з мужам па жыцці, і зараз, застаўшыся адна, не разгубілася, не страціла веры ў лепшае, свята захоўвае тую балючую памяць, у якой умясцілася іх сумеснае жыццё.

С. КАЖАДУБ.

в. Чамялы.

● ПРАЗ ЦЕРНІ – У РЫНАК

# "КАБ ВЫЖЫЦЬ..."

Гэтыя словы сказаў дырэктар Івацэвіцкага хлебапрыёмнага прадпрыемства Аляксандр Аляксандравіч Гарчанюк. І ён меў рацыю. Не ўсе заводы, фабрыкі калгасы і саўгасы ў нашы дні выжываюць з-за фінансавых цяжкасцей, бо асноўная вытворчасць не забяспечвае ні яе далейшае развіццё, ні дастойную аплату працы рабочых, калгаснікаў і служачых. Таму і паявіліся пабочныя галіны гаспадарання, як падмога і падтрымка для працоўнага калектыву.

На хлебапрыёмным прадпрыемстве, напрыклад, працуе мініпякарня. Хлеб, выпечаны тут,карыстаецца добрым попытам у насельніцтва.

Ёсць на прадпрыемстве і свой млын. Праўда, не ўсе, асабліва сельскія жыхары, ведаюць пра яго. З пшаніцы заказчыку змелюць муку першага і другога гатунку. Кошт размолу аднаго кілаграма пшаніцы – тысяча рублёў.

Можна на млыне здрабніць фуражнае зерне на корм жывёле. Адзін кілаграм змолатага збожжа абыйдзецца ў пяцьсот рублёў.

Акрамя гэтага, хлебапрыёмнае прадпремства адчыніла і ўтрымлівае пяць магазінаў (два ў Івацэвічах, а таксама ў Целяханах, Аброве і Амяльной).

Трэба адзначыць, што многія тавары і прадукты, якія тут прадаюцца, каштуюць танней, чым у крамах спажывецкага гандлю.

Што тычыцца асноўнай вытворчасці, то прыём збожжа ад гаспадарак раёна ідзе без усялякіх перабояў. Па стану на 6 верасня з плана 15750 тон паступіла ўжо 15261,4 тоны збожжа. Большасць калгасаў ужо на днях прадасць дзяржаве апошнія планавыя, а некаторыя і звышпланавыя тоны зерня.

Як сказалі нам на прадпрыемстве, засмучае тое, што ні адна гаспадарка раёна пакуль што не выканала даведзены план продажу збожжа па культурах (жыта, ячмень, пшаніца, авёс і г. д.). Застаецца спадзявацца, што справы яшчэ паправяцца.

С. РЫГОРАЎ.

XXX

# АГЕНЬЧЫК ТВОРЧАСЦІ

Некалі флагман лёгкай прамысловасці Беларусі – Баранавіцкае вытворчае баваўнянае аб'яднанне імя Ленінскага камсамола Беларусі ды яшчэ ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга – славіўся сваімі незвычайнымі працоўнымі дасягненнямі. Прадзільшчыцы выконвалі па дзве пяцігодкі за адну, не адставалі ад іх ткачыхі. Бяз'ю і паркалём, выпушчанымі аб'яднаннем, „абмотвалі" зямны шар. Залатым дажджом сыпаліся на работнікаў узнагароды розных вартасцей. А колькі было ліпы, ашуканства! Але цяпер не аб гэтым. Пад тырады гаваркога генсека знік Саюз, трэснула аб'яднанне, пазбавілася сыравіннай базы і спажыўцоў баваўнянага палатна. Стаяць цэхі. Толькі зрэдку ўспыхвае працоўны гул.

І ўсё ж не падаюць духам тэкстыльшчыкі. Больш за 20 гадоў працуе ў аб'яднанні В. В. Бабкоў, які пачынаў слесарам-рамонтнікам. У яго не жылка, а вялікі талент рацыяналізатара. За гэтыя гады на шляху ад слесара да начальніка прадзільнага цэха ён распрацаваў і ўкараніў сотні рацыяналізатарскіх прапаноў. І агеньчык творчасці не згасае. Нядаўна ён да сваіх шматлікіх грамат дабавіў яшчэ адну – Грамату Баранавіцкага гарвыканкама. Такую ж узнагароду атрымаў дырэктар прадзільнай фабрыкі В. П. Троіцкі – за высокую выніковасць тэхнічнай творчасці.

Вось бы так усе – ад рабочага да дырэктара – шукалі пошукі рашэння праблем. Глядзіш, і паднялося б з „попелу" аб'яднанне.

П. НАГНІБЕДА.

● АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

# ЗОРНЫЯ ДЫЕТЫ

***– Гэта рэдакцыя „Газеты для вас"? Я цікаўлюся астралогіяй і збіраю матэрыялы, якія датычаць гэтай тэмы. Мне хацелася б ведаць, ці існуе якая залежнасць паміж знакам Задыяка, пад якім чалавек нарадзіўся, і ежай, якую ён ужывае? Нешта пра гэта вельмі мала пішуць. Калі ў вас ёсць такі матэрыял, надрукуйце, калі ласка.***

***Марыя Васільеўна (г. Івацэвічы).***

*– Так, існуе. Гэта сцвярджае „Хатні лячэбнік", выдадзены ў Расіі ў 1992 годзе.*

***Вадалей (21 студзеня–19 лютага).*** *Вадалеям не хапае сіняга і белага. Працаздольнасць іх узрастае, калі ў іхняй ежы садавіна і гародніна белага і сіняга колеру, напрыклад, вінаград, грушы, дыні, сельдэрэй, бульба, рыба, кураняты, цяляціна.*

***Рыбы (20 лютага–21 сакавіка).*** *Рыб пажадана падкармліваць зялёным і белым. Вельмі карысныя для іх караняплоды, трапічныя садавіна і гародніна, рыба, кураняты, яйкі, цяляціна.*

***Авен (22 сакавіка–20 красавіка).*** *Яму на карысць усё чырвонае, са страў – перац, ягады, таматы, радыска, кавуны, капуста, чырвонае мяса.*

***Цялец (21 красавіка–21 мая).*** *У Цяльцоў дэфіцыт жоўтых праменняў. Ім патрэбна паболей вітаміна С і А, больш ужываць морквы, дыняў, рэпы.*

***Блізняты (22 мая–22 чэрвеня).*** *Ім не хапае жоўтых і пурпурных праменняў.*

***Рак (23 чэрвеня–22 ліпеня).*** *Яму варта падмацоўвацца белым і зялёным, на карысць усё, што расце ў цяню ці не пад прамымі промнямі сонца. І няхай часцей ён ужывае агуркі, тварог, дыні.*

***Леў (23 ліпеня–23 жніўня).*** *Ільвоў неабходна падкармліваць аранжавымі і жоўтымі промнямі, вітамінам С. Карысныя ім садавіна, кавуны, гарбузы, тварог. Гэтыя людзі нялёгка пераносяць стрэсы.*

***Дзевы (24 жніўня–23 верасня).*** *Дзеву абдзялілі фіялетавымі і залатымі промнямі. Яны схільныя да пухлінаў і хвароб нырак, ім патрабуецца ежа, багатая каліем.*

***Шалі (24 верасня–23 кастрычніка).*** *Ім „не даважылі" залатых і малінавых промняў. У іхнюю дыету варта ўключаць агародніну і садавіну гэтых колераў, асабліва тыя, якія растуць пад зямлёй. І мяса.*

***Скарпіён (24 кастрычніка–22 лістапада).*** *У Скарпіёнаў шмат нярвовай энергіі, хоць у іх не ўдосталь чырвонага і вогненнага колераў. Няхай паболей ужываюць мяса і вадкасцей.*

***Стралец (23 лістапада–22 снежня).*** *Стральцам трэба „дабіраць" чырвоныя і залатыя промні, у іх мала ферментаў, ім добра б палюбіць невараную ежу.*

***Казярог (23 снежня–20 студзеня).*** *Казярогам недададзена цёмна-зялёных промняў. Ім неабходна такога ж колеру ежа і ўсялякага кшталту марскія стравы.*

# АМАТАРАМ ПАМІДОРАЎ

***– Пажадана, каб „Газета для вас" надрукавала некалькі парадаў, як захоўваць памідоры. Буду вельмі вам удзячная.***

***Л. ЖУК (г. Бяроза).***

- *Помидоры дольше сохраняются, если положить их в эмалированную без крышки кастрюлю и держать на нижней полке холодильника.*
- *Чтобы лопнувший помидор не заплесневел, трещинку густо посыпьте солью.*
- *Ломтики помидоров, посыпанные мукой и солью и обжаренные в растительном масле, подают к столу как самостоятельное блюдо.*
- *Свежие помидоры можно сохранить до января. Для этого осенью отберите зеленые, здоровые плоды. Каждый плод оберните бумагой, уложите в ящик или корзинку, застланную соломой, и храните при температуре 11–13° в темном месте.*

# ЗАЯВА

## САВЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ І НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выходзячы з патрабаванняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, урад паслядоўна праводзіць палітыку стабілізацыі цэн і тарыфаў у цеснай узаемаўвязцы з мерамі сацыяльнай абароны насельніцтва, недапушчэння зніжэння яго рэальных даходаў. На працягу 1997 года тройчы павышалася мінімальная заработная плата і пяць разоў памеры пенсій. У сувязі з гэтым за сем месяцаў 1997 года рэальныя грашовыя даходы насельніцтва ў параўнанні з аналагічным перыядам 1996 года выраслі на 11 працэнтаў. З 1 верасня 1997 г. мінімальная заработная плата павялічана са 150 да 200 тыс. рублёў, а тарыфная стаўка першага разраду – са 170 да 220 тыс. рублёў.

Мэтанакіраваная работа па стрымліванню інфляцыі дала магчымасць знізіць індэкс спажывецкіх цэн з 13,3 працэнта ў студзені 1997 г. да 1,4 працэнта ў ліпені.

У мэтах выканання даручэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь урадам і Нацыянальным банкам прыняты комплекс мераў па недапушчэнню да канца 1997 года росту інфляцыі больш як 2 працэнты ў месяц.

Кіруючыся гэтым, да заканчэння ацяпляльнага сезона ўстаноўлены гранічны каэфіцыент (1,2) павышэння тарыфаў на цеплавую энергію для ацяплення і гарачага водазабеспячэння, а да 1 студзеня 1998 г. – на паслугі водазабеспячэння і каналізацыю, вываз і абясшкоджванне цвёрдых бытавых адходаў. Аблвыканкамам і Мінскаму гарвыканкаму даручана ўстанавіць і апублікаваць тарыфы на камунальныя паслугі ў строгай адпаведнасці з устаноўленым каэфіцыентам. Пры гэтым доля пакрыцця насельніцтвам затрат на жыллёва-камунальныя паслугі складзе ў сярэднім 44 працэнты.

Да 1 студзеня 1998 г. устаноўлены наступныя цэны і тарыфы за:

кватэрную плату – 1224 рублі за 1 кв. метр;

газ прыродны для патрэб прыгатавання ежы і гарачага водазабеспячэння – 1273 рублі за 1 куб. метр;

газ звадкаваны ёмісты –3622 рублі за 1 куб. метр;

газ звадкаваны для бытавых патрэб у балонах ёмістасцю 50 літраў – 70 тыс. рублёў за балон.

Гэтыя змяненні цэн і тарыфаў кампенсуюцца прынятымі з 1 верасня 1997 г. мерамі сацыяльнай абароны. Захаваны парадак прадастаўлення безнаяўных субсідый грамадзянам з тым, каб сума затрат на аплату жылля і камунальных паслуг з улікам дзеючых ільгот не перавышала 15 працэнтаў сукупнага грашовага даходу сям'і.

Міністэрствам, іншым рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання, аблвыканкамам і Мінскаму гарвыканкаму даручана прыняць меры па ўзмацненню кантролю за захаваннем дысцыпліны цэн і абгрунтаванасцю затрат, што ўключаюцца ў сабекошт вырабляемай падведамнымі прадпрыемствамі прадукцыі (работ, паслуг), павысіць персанальную адказнасць кіраўнікоў у выпадках неабгрунтаванага росту цэн і тарыфаў.

Мінжылкамгасу і канцэрну „Белпалівагаз" даручана давесці да падведамных прадпрыемстваў нарматывы затрат на аказанне гэтых паслуг.

У мэтах абмежавання росту ўнутраных цэн на імпартуемыя тавары, падтрымання дастатковай эфектыўнасці вытворчасці і паставак айчынных тавараў на экспарт урадам і Нацыянальным банкам вызначаны меры па павелічэнню неінфляцыйных крыніц фінансавання дэфіцыту дзяржаўнага бюджэту і прыярытэтных напрамкаў развіцця народнай гаспадаркі, скарачэнню маштабаў грашовай эмісіі, што дасць магчымасць ажыццяўляць кантралюемае зніжэнне абменнага курса беларускага рубля не больш чым на 80–100 працэнтаў ад узроўню штомесячнай інфляцыі.

Па меры скарачэння тэмпаў росту цэн Нацыянальным банкам будзе аператыўна зніжацца стаўка рэфінансавання, што прывядзе да змяншэння ставак па крэдытах і дэпазітах банкаў з адначасовым падтрыманнем іх велічынь на ўзроўні, які забяспечыць безумоўную захаванасць і даходнасць грашовых сродкаў прадпрыемстваў і насельніцтва, размешчаных на тэрміновых дэпазітах у банках.

Нацыянальным банкам устаноўлены кантроль за дзейнасцю банкаў, накіраваны на забеспячэнне законных інтарэсаў кліентаў і ўкладчыкаў, стабільнасць банкаўскай сістэмы і павелічэнне маштабаў яе ўдзелу ў інвестыцыйнай дзейнасці, развіцці экспартнага патэнцыялу краіны.

Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь С. ЛІНГ.

Старшыня праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь Г. АЛЕЙНІКАЎ.

● САЦЫЯЛЬНЫ АСПЕКТ

## ВЕТЭРАНАЎ НЕ ТОЛЬКІ ЎШАНОЎВАЮЦЬ

У гарадскім пасёлку Гарадзішча здадзены ў эксплуатацыю васьмікватэрны жылы дом. Навасёламі яго сталі ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны Сяргей Цімафеевіч Ігнатовіч, Ганна Сцяпанаўна Шэпялевіч і Алена Антонаўна Шапавалава.

x x x

Па прапанове старшыні раённай арганізацыі ветэранаў вайны і працы Міхаіла Аляксандравіча Скіпара начальнікі ваенна-ўліковых сталоў усіх сельскіх Саветаў пачалі накапліваць банкі дадзеных пра кожнага ветэрана - стане здароўя, матэрыяльным і сямейным становішчы. Робіцца гэта дзеля таго, каб своечасова аказаць дапамогу заслужаным людзям.

x x x

Гарадскі савет ветэранаў вайны і працы ўзяў на ўлік пажылых адзінокіх людзей, якія ваявалі, працавалі, а цяпер знаходзяцца на пенсіі. Іх наведваюць работнікі аддзялення сацыяльнай абароны на даму, выконваюць хатнія работы, дастаўляюць прадукты і лекі.

Кожны ветэран на дзень свайго нараджэння атрымлівае музычную паштоўку з любімай песняй, якую яму „дасылае" гарадское радыё.

x x x

З розных дабрачынных фондаў грашовую дапамогу атрымалі 1642 ветэраны. Надомным абслугоўваннем ахоплена 506 чалавек. Удзельнікам другой сусветнай вайны выдзелена 12 кватэр, устаноўлена 97 тэлефонаў.

Гэта далёка не поўны пералік добрых спраў, зробленых сёлета ветэранскімі і іншымі грамадскімі арганізацыямі горада і раёна для забеспячэння спакойнай старасці ветэранаў.

(Наш кар.).

Баранавіцкі раён.

● ВАША ПІСЬМО

## *Забытая Брацкая*

*Ёсць такая вуліца ў Баранавічах – Брацкая. Даўжыня яе ўсяго метраў чатырыста. У сухое надвор'е па ёй яшчэ можна прайсці, але праехаць і не паламаць амартызатар рызыкоўна. Ідзе чалавек, чапляецца за плот, каб не трапіць у каляю з брудам. Гаспадары дамоў дадумаліся запэцкаць платы нейкім адпрацаваным машынным маслам: схопішся рукой – не адмыеш.*

*Кожная вуліца павінна адпавядаць тэхналагічным патрабаванням, якія забяспечвалі б бяспечны праезд і праход. Брацкая вуліца не адпавядае. Пра яе забылася камунальная служба горада.*

**В. ЯСКЕВІЧ,** *жыхарка Баранавічаў.*

# Для дома, для семьи, для души...

● ВАШЕ ЗДОРОВЬЕ

## Как снять усталость за одну минуту

*Известный специалист Д. Керни предложил способ минутного самомассажа, который в течение 1 минуты поможет „перезарядить аккумулятор" энергии, освободиться от усталости. Не верите – попробуйте.*

*1. Быстро потрите друг о друга пальцами ладони 5 сек.*

*2. Теперь быстро потрите разогретыми теплыми пальцами щеки вверх-вниз 5 сек.*

*3. Часто постучите барабанной дробью по макушке головы 5 сек. (3 и 4 пальцами).*

*4. Сожмите руку в расслабленный кулак. Энергично поглаживайте внутреннюю и внешнюю стороны предплечья 3 раза.*

*5. Осторожно надавите на щитовидную железу (ниже кадыка) большим и указательным пальцами 3 раза.*

*6. Найдите на шее пульсацию сонной артерии, осторожно нажмите на артерию, сосчитав до 5. Освободите. Дышите глубоко. Снова нажмите и перейдите на другую сторону.*

*7. Большим пальцем нащупайте впадину в основании черепа (у места соединения головы с позвоночником). Нажмите, сосчитав до 3, отпустите. Повторите 3 раза.*

*8. Массаж рефлекторных зон ног: а) сожмите кончик большого пальца, затем подушечку большого пальца. Если заметите болезненную точку, разотрите ее до исчезновения боли; б) плотно захватите большим и указательным пальцами руки ахиллово сухожилие, сдавите его, отпустите. Повторите по 3 раза на каждой ноге; быстро потрите верх ступни рукой (или, что более удобно, пяткой другой ноги).*

*9. Раскрытой ладонью похлопайте ногу спереди, сбоку и сзади от ступни до паха (если у вас нет варикозного расширения вен).*

*Если заканчивая самомассаж, вы чувствуете, что по телу разлилась приятная теплота, цель достигнута: всего за 60 секунд вы включили основные системы организма на полные обороты.*

● ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО?..

## Из истории алюминия

*Алюминий впервые был получен датским физиком Эрстедом в 1825 г. в виде тонкого порошка. Лишь через 20 лет его удалось получить в виде мелких зерен. И только в 1886 г. одновременно во Франции и в США был разработан способ электролитического получения алюминия. Вплоть до этого новый металл получали в небольших количествах химическими методами, и стоил он не намного дешевле золота. Наряду с золотом и серебром алюминий шел на изготовление ювелирных изделий. Так, в 50-х годах прошлого века из алюминия и золота сделали погремушку для сына французского императора Наполеона III.*

*В 1884 г. из алюминия сделали верхушку памятника Вашингтону в столице США. Пирамидка весом около 25 килограммов перед установкой на вершине обелиска была выставлена в витрине крупного ювелирного магазина в Нью-Йорке на удивление прохожим, никогда в жизни не видевшим такой массы драгоценного металла. В наше время легкость получения алюминия из горных пород в больших количествах почти совершенно лишила его этой роли. Зато в технике и строительстве алюминий – поистине драгоценный металл.*

● ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

## Хозяюшке на заметку

*Для того, чтобы дольше сохранить эластичность кожи лакированной обуви, сумок и т. д. их полезно периодически смазывать тщательно перемешанным составом из 1 яичного желтка, 3 столовых ложек скипидара и 1 чайной ложки растительного масла.*

x x x

*Чтобы кожаное изделие блестело, надо смазать его тонким слоем вазелина, затем яичным белком и отполировать тряпкой.*

x x x

*Перчатки из мягкой кожи приобретают приятный блеск, если их слегка натереть тальком.*

x x x

*Затвердевшие кожаные перчатки смажьте касторовым маслом или смочите мыльным раствором, в который добавлено немного подсолнечного масла. Предварительно такой раствор вскипятите и охладите.*

x x x

*Пятна от воды с полированной мебели исчезнут, если их посыпать пеплом от сигарет и после этого протереть пробкой, обожженной на открытом пламени.*

x x x

*Полированную или покрытую декоративной плёнкой мебель хорошо протирать тряпкой, пропитанной смесью глицерина и воды (1:10).*

● ЭТИКЕТ

## Как подавать вина

*Даже сравнительно дешевое вино может лучшим образом проявить свой букет, если с ним правильно обращаться. Сухие вина, а также шампанское, следует хранить в горизонтальном положении, в то время как десертные вина хранят в вертикальном положении. Белое вино подают охлаждённым, но его не следует слишком сильно и долго охлаждать. Старое марочное белое вино сохраняет свой букет при температуре 10-12°. Молодые шипучие вина – при температуре от 8 до 10°.*

*Красное вино перед подачей на стол не нужно охлаждать, оно сохраняется при комнатной температуре 16-18°. Никогда не опускайте бутылки с вином в теплую воду – аромат вина в этом случае неизбежно ухудшится. Если вы в красном вине обнаружили осадок, это ни в коей мере не является показателем плохого качества вина. Десертные вина приятнее всего на вкус, когда их температура 15-16°.*

*Шампанское подают на стол прямо из холодильника или в ведерке со льдом при температуре от 6 до 8°. Длительное хранение при низкой температуре не оказывает на него отрицательного воздействия.*

● ПОИГРАЕМ С ДЕТЬМИ

## Конкурс загадок

*Что может быть больше слона и одновременно невесомым?*

***(Тень слона.)***

*Что все люди на земле делают одновременно?*

***(Становятся старше.)***

*Что становится больше, если его поставить вверх ногами?*

***(Число 6.)***

*Как спрыгнуть с десятиметровой лестницы и не ушибиться?*

***(Надо прыгать с нижней ступени.)***

*Что не имеет длины, глубины, ширины, высоты, а можно измерить?*

***(Время, температура.)***

*Как может брошенное яйцо пролететь три метра и не разбиться?*

***(Нужно бросить яйцо на четыре метра, тогда первые три метра оно пролетит целым.)***

*Что станет с зеленым утесом, если он упадет в Красное море?*

***(Он станет мокрым.)***

